Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 1 (16) Вільня, 20 Студня 1936 г. Год III



# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Балтупская 14 — 6 (Wilno, Bołtupska 14 — 6). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць пэрыядычна за кошт ахвяр сяброў і сымпатыкаў Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў.

## Да ўсіх Беларускіх Нацыянал - Сацыялістаў

У гэтым нумары Новага Шляху Арганізацыйная Камісія Беларускага Нацыянал - Сацыялістычнага Актыву публікуе праграму беларускіх нацыянал - сацыялістаў. Гэта ёсьць першым этапам нашага партыйнага будаўніцтва, этапам найбольш адказным і паважным. Наша праграма скрысталізавалася ў выніку доўгай працы паасобных сяброў, каторыя, узгадняючы свае пагляды, праводзілі дыскусыі на праграмовыя тэмы і ўцягвалі ў гэтыя дыскусыі паасобныя нацыянал-сацыялістычныя сябрыны.

Цяпер тое, што мы друкуем, ёсьць нашаю супольнаю вераю, ад якой мы не адступім і якую кожны нацыянал-сацыяліст будзе пашыраць сярод беларускага грамадзянства.

Наступным этапам нашай дзейнасьці будзе скліканьне на агульны зьезд тых сяброў, якія поўнасьцю падзяляючы праграму, згодны будуць паддацца партыйнай дысцыпліне, апрацаваўшы адпаведны партыйна - арганізацыйны статут і выбяруць партыйныя ўлады.

Да часу гэтага зьезду Арганізацыйная Камісія будзе весьці рэестрацыю ўсіх тых грамадзян, каторыя лічучы сябе нацыянал-сацыялістамі зглосяцца як кандыдаты ў партыю па адрэсу рэдакцыі нашага часапісу.

Адначасна з гэтым Арганізацыйная Камісія вядзе падгатаваўчую працу ў мэтах хутчэйшага скліканьня партыйнага зьезду.

За Арганізацыйную Камісію:

Старшыня Ф. Акінчыц.

Сэкрэтар Ул. Казлоўскі.

Вільня, 10. І. 1936.

## ПРАГРАМА
### Беларускай Нацыянал-Сацыялістычнай Партыі
### (Б. Н. С. П.)

Сьвет апынуўся ў апошняй фазе разьвіцця нацыянальных, палітычных і сацыяльна-эканамічных канфліктаў, якія прывядуць да новай эры існаваньня ўсіх народаў, а ў тым ліку і народу Беларускага.

Кірунак гістарычных падзеяў і характар таго ладу, які запануе на сьвеце, у значнай меры будзе залежаць ад сьведамага ўтручэньня ў стыхійны працэс разьвіцця арганізаваных грамадзкіх сілаў.

Дзеля гэтай прычыны Беларускія Нацыянал - Сацыялісты твораць палітычную партыю, якая будзе імкнуцца да абьяднаньня Беларускага грамадзянства на падставе наступнай праграмы:





### I. Палітычныя мэты.

Нашым палітычным ідэалам ёсьць незалежная і абьяднаная Беларуская Дзяржава ў яе этнічных межах.

Палітычны і грамадзкі лад, які запануе ў Беларускай Дзяржаве, будзе ўстаноўлены арганізаваным беларускім грамадзянствам, якое і вырашыць гэтыя пытаньні згодна з вымогамі часу і д а б р о м Беларускай Нацыі.

### II. Нацыянальна-ўзгадаваўчыя мэты.

Б. Н. С. П. ставіць наступныя б л і ж э й ш ы я мэты:

1. Нацыянальнае ўзгадаваньне Беларускага Народу ўсімі магчымымі спосабамі: — праз школу, прэсу, выдавецтвы, прыклады асабістай самаахвярнасьці сяброў партыі для дабра Бегарускай нацыі і г. п.

2. Вытварэньне з беларускай народнай масы кадраў беларускіх патрыётаў з высокім пачуцьцём нацыянальнай і сацыяльнай сьведамасьці і нацыянальнай гордасьці.

3. Барацьба з нацыянальным рэнэгацтвам і здрадаю.

4. Пакладаньне вынятковых высілкаў на нацыянальнае і грамадзкае ўзгадаваньне беларускай моладзі праз тварэньне адпаведных культурна-асьветных і гімнастычна-спартовых арганізацыяў.

### III. Адносіны да іншых народаў.

1. Нашыя адносіны да іншых народаў акрэсьляюцца тою роляй, якую паасобныя народы, як сумежныя так і тыя, каторыя жывуць на Беларускіх землях, выконваюць у адносінах да Беларускага Народу.

2. Б. Н. С. Н. будзе ўсімі даступнымі ёй спосабамі змагацца з палітыкаю вынарадаўленьня Беларускага Народу.

3. Бяручы пад увагу спэцыфічную ролю нац. меншасьцяў, як у эканамічным, так і ў грамадзкім жыцьці на нашых землях, БНСП будзе ўсьведамляць Беларускі Народ аб гэтай ролі і тым самым будзе імкнуцца да нацыянальнай консолідацыі беларусаў.

4. У будучыні, пры ўмовах палітычнай незалежнасьці Беларускага Народу БНСП лічыць неабходным радыкальнае вырашэньне пытаньня нацыянальных меншасьцяў ў Беларусі шляхам стварэньня такіх абставінаў, пры каторых яны не мелі-б магчымасьцяў да выкананьня эксплёататарскай і дэструкцыйнай ролі ў адносінах да Беларускага Народу.

### IV. Сацыяльна-эканамічныя мэты.

Сучасны буржуазна-капіталістычны лад дзеліць грамадзянства на клясы, даючы адным усё і адбіраючы ад большасьці самае неабходнае для жыцьця. Гэтакі лад давёў да таго, што ўсьцяж паглыбляючыся крызыс у застрашваючы спосаб павялічвае кадры беспрацоўных, якіх у аднэй толькі Эўропе налічваецца некалькі дзесяткаў мільёнаў. Падобны стан рэчаў пагражае ўсёй цывілізацыі і далей не павінен існаваць. Паскольку ўсе несправядлівасьці і крыўды, якія наглядаюцца ў сучасным грамадзянстве, зьяўляюцца насьледкам буржуазна-капіталістычнага ладу — гэты апошні мусіць быць зьліквідаваны спосабамі і сродкамі, якія будуць найбольш адпаведнымі ў тую хвіліну, калі будзе магчымым з агляду на палітычныя абставіны і ступень арганізаванасьці народных масаў прыступіць да ягонай ліквідацыі. У кожным разе Незалежная Беларуская Дзяржава павінна пачаць сваё існаваньне як краіна, пазбаўленая гэтакага ладу, каторы прыносіць адны толькі няшчасьці пераважнай большасьці народу і ўстрымлівае гаспадарчы і культурны поступ. На зьмену буржуазна-капіталістычнага ладу прыдзе лад сацыялістычны, пры каторым усё вырабніцтва ператорыцца з прыватна-ўласніцкага на грамадзкае, а ўвесь промысел, банкі і наагул усялякая буйная маемасьць з прыватных рук пяройдзе ў рукі арганізаванага грамадзянства, каторае праз свае правамоцныя воргаы ўстановіць новыя способы гаспадараваньня стасоўна да сацыяльна-эканамічных абставінаў у Беларускім Краі.

### V. Зямельная справа.

Зямельная справа ў межах З. Беларусі зьяўляецца найбольш актуальнаю і балючаю. Малазямельле, церазпалосіца, адсутнасьць пляновай агранамічнай помачы, беспрацоўе на вёсцы і цэлы рад іншых ад'ёмных зьявішчаў, прычыняюцца да гаспадарчага і культурнага заняпаду беларускай вёскі. — Прыймаючы гэта пад увагу, БНСП. будзе імкнуцца ў сучаснасьці да а р г а н і з а ц ы і сялянства на аснове наступных дамаганьняў, зьдзейсьненьне каторых забясьпечыло-б элемэнтарныя ўмовы іхняга існаваньня.

1. Перадачы адпаведных ужытковых земляў у рукі беларускіх сялян, якія іх патрабуюць, без аплаты. Норма надзяленьня зямлёю павінна быць ня вышэй працоўнай і ня ніжэй спажыўчай.

2. Выдачы малазямельным дапамогі ад дзяржавы на загаспадараваньне пры надзяленьні іх зямлёю. У першую чаргу запамогі павінны выдавацца тым, хто павядзе гаспадарку на коопэратыўных ці арцельных падставах.

3. Дапамогаў ад дзяржавы на палепшаньне скоопэраваных сялянскіх гаспадарак шляхам арганізацыі беспрацэнтнага ці-то нізкапрацэнтнага крэдыту.

4. Пашырэньня сярод сялянства ўсякіх відаў коопэрацыі. Дапамогаў ад дзяржавы на коопэратыўнае будаўніцтва і паступовага правядзеньня коопэрацыі сельскай гаспадаркі.

5. Бяручы пад увагу, што штораз больш павялічваюцца непаразуменьні паміж сяб-

рамі сялянскай сямьі на грунце маемасных падзелаў і з іншых матэрыяльнага зьместу прычын, а галоўнае з прычыны самавольнага распараджэньня гаспадаркаю правам нічым не агранічанай уласнасьці галавы сямьі ў той час, як гаспадарка зьяўляецца фактычна варштатам працы ўсей сямьі; беручы пад увагу іншыя непажаданыя зьявішчы, якія пануюць на вёсцы, як напр., эксплёатацыя дзіцячай працы з боку бацькоў, жорсткія адносіны дзяцей да старых бацькоў і г. п. — БНСП. стаіць за ўвядзеньне адпаведнага грамадзкага кантролю над узаемаадносінамі сярод сяброў сялянскай сямьі і прызнаньне сялянскай маемасьці колектыўнаю маемасьцю ўсіх сяброў сямьі, а ня толькі галавы яе.

6. Правядзеньня ў жыцьцё цэлага раду мерапрыемстваў, маючых на мэце агульнае павялічэньне дабрабыту сялянства і палепшаньня спосабаў гаспадараваньня; абніжэньня падаткаў, шырокай мэліорацыі, урэгуляваньня збажовых цэнаў, арганізацыі густой сеткі сельска-гаспадарчых і коопэратыўных школаў з выкладоваю беларускаю моваю, дапамогаў падчас няураджаю бясплатнай агранамічнай і вэтэрынарнай помачы і г. п.

7. Арганізацыі з беззямельных і беспрацоўных земляробскіх арцеляў з перадачаю ў іх карыстаньне ужытковых земляў з адпаведнаю арганізацыйнаю і матэрыяльнаю дапамогаю з боку дзяржавы. БНСП. лічыць, што арганізацыя беззямельных і беспрацоўных у арцелі зьяўляецца больш карыснаю чым надзяленьне іх зямлёю на праве прыватнай уласнасьці і тварэньня гэтым слабасільных і малавыдатных гаспадарак.

8. Падтрыманьне хатняга промыслу, у першую чаргу сарганізаванага на коопэратыўных, ці на арцельных падставах.

9. Скасаваньне асадніцтва і ўстрыманьне пераходу зямлі ў чужацкія рукі.

10. Ануляваньня ўсіх даўгоў сялянства дзяржаўным інстытуцыям у сувязі з камасацыяю грунтаў, а таксама залёгшых падаткаў.

11. Ануляваньне ўсіх даўгоў, якія былі зацягнуты сялянамі ў ліхвяроў на гаспадарчыя мэты.

12. Бясплатнай мэдыцынскай і акушэрскай помачы на вёсцы і арганізацыі дажыўляньня дзяцей бяднейшай часьці сялянства.

13. Арганізацыі апекі над старцамі і інвалідамі працы.

Высоўваючы вышэй пададзеную праграму, БНСП лічыць, аднак, што яна не вырашае ўсей аграрнай праблемы ў суцэльнасьці.

Справа палягае на тым, што сучасны лад, абапёрты на крайнім індывідуалізме, стварыў такія ўмовы, пры каторых рацыянальнае гаспадараваньне зусім немагчыма.

З гэтай прычыны сялянская гаспадарка вымагае грунтоўнай сацыяльна-эканамічнай і тэхнічнай перабудовы, у выніку якой існуючая форма гаспадараваньня павінна ператварыцца ў формы коопэратыўна-арцельныя.

Пры гэтакай перабудове, аднак, не павінна быць месца ўтраце зацікаўленьня з боку сялянства да вынікаў сваей працы.

Лічучыся з тым пагражаючым станам рэчаў, які вытварыўся ў сучаснай вёсцы, патрэбным зьяўляецца застасаваньне з боку дзяржавы сыстэмы эканамічных і фінансавых мерапрыемстваў, якія прычыніліся-б да хутчэйшага ўвядзеньня новых формаў гаспадараваньня.

БНСП, уважаючы грунтоўную рэканструкцыю (перабудову) сельска-гаспадарчага ладу на коопэратыўных і арцельных падставах за гістарычна неабходную і нямінучую, сьцьвярджае аднак, што радыкальная зьмена існуючага стану рэчаў на вёсцы на лепшае—магчыма будзе да зьдзейсьненьня толькі пры ўмовах палітычнай і сацыяльна-эканамічнай незалежнасьці Беларускага Народу, каторы, будучы паўнапраўным гаспадаром сваіх земляў, вырашыць аграрную праблему ўва ўсёй яе паўнаце, апіраючыся на наступных галоўных падставах:

1. Уся зямля пераходзіць на ўласнасьць дзяржавы, каторая ўстанаўляе парадкі і спосабы гаспадараваньня, дбаючы пра агульны гаспадарчы поступ і дабрабыт усяго Беларускага Народу.

2. Дзяржаўныя ворганы праводзяць масавае і паступовае коопэраваньне ўсіх галін сельскай гаспадаркі.

3. Коопэрызацыя вёскі праводзіцца на дабравольных падставах і ворганы ўлады маюць права застасаваць толькі такія мерапрыемствы, каторыя заахвочвалі-б сялянства да пераходу на новыя формы гаспадараваньня.

4. Дзяржава рупіцца пра поступ коопэратыўнай культуры і падтрымлівае коопэратыўныя выдавецтвы, школы і г. п.

Ува ўсіх школах уводзіцца абавязковае навучаньне падстаў коопэратыўнай тэорыі і практыкі з такім абрахункам, каб маладое беларускае пакаленьне ўяўляла з сябе грамаду сьведамых коопэратараў, з якімі можна было-б прыступіць да рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

5. Дзяржава апякуецца і падтрымлівае ўсе арцелі (сябрыны) і іншыя земляробскія арганізацыі, маючыя коопэратыўны і колектывістычны характар.

## VI. Работніцкія справы.

Беручы пад увагу сучасныя сацыяльна-эканамічныя абставіны, у якіх апынуліся работніцкія масы—БНСП будзе змагацца за:

1. 8 гадз. дзень працы.

2. Права страйку.

3. Колектыўныя ўмовы дзеля забясьпечаньня лепшай аплаты.

4. Дзяржаўнае страхаваньне на кошт працадаўцы работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва і на старасьць.

5. Адпаведны дагляд з боку ўладаў за абставінамі, у якіх працуюць кабеты і дзеці.

6. Арганізацыю шырока пастаўленых работ ў мэтах барацьбы з беспрацоўем.

На стварэньне фонду для такіх работ павінны быць асыгнаваны адпаведныя сродкі за кошт вайсковага буджэсу і іншых непрадукцыйных выдаткаў і ўведзяны надзвычайны падатак з заможных клясаў.

## VII. Палітычныя і прававыя дамаганьні.

У гэтай галіне БНСП пры сучасных палітычных і грамадзкіх абставінах будзе дамагацца:

1. Поўных правоў для Беларускага Народу, якія яму павінны належаць на роўні з пануючаю нацыяю.
2. Палітычных свабодаў.
3. Срогіх караў для ўрадоўцаў за злоужываньня ўлады, асабліва ж за насільствы над грамадзянамі.
4. Зьмены існуючага выбарнага закону ў законадаўчыя ўстановы. — Прадстаўніцтва ў Сойм і Сэнат павінна выбірацца на падставе ўсеагульнага, роўнага і простага выбарнага права для ўсіх грамадзян і грамадзянак, асягнуўшых 21 год, пры захаваньні тайнасьці галасаваньня.
5 Поўнай свабоды выбараў, як у заканадаўчыя, так і самаўрадавыя ўстановы і срогіх караў для тых урадаўцаў, каторыя пагвалчаюць гэтую свабоду.
6. Увядзеньня беларускай мовы ўва ўсіх інстытуцыях і ўстановах, дзеючых на Беларускіх землях.

## VIII. Агульна-эканамічная і фінансавая палітыка.

У гэтай галіне БНСП будзе дамагацца:

1. Поўнай рэарганізацыі падаткавай сыстэмы ў мэтах пераложэньня падаткавых цяжараў на заможныя клясы, шляхам ўвядзеньня прагрэсыўна-падаходнага налогу, прагрэсыўнага налогу на насьледствы і г. п.
2. Зьмены сыстэмы дзяржаўных расходаў і зьмяншэньня выдаткаў на армію, адміністрацыю, паліцыю і павялічэньне выдаткаў на культурныя і гаспадарчыя патрэбы Беларускіх земляў.
3. Увядзеньня адзінага падатку, які-б вызначаўся раз на год.
4. Звальненьня ад ўсякіх падаткаў такіх даходаў, каторыя патрэбны на пражыцьцё.

## IX. Асьвета.

1. БНСП уважае, што школа, апрача асягненьня агульна-асьветных мэтаў павінна даць моладзі фаховую веду. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернена на земляробскія навукі і коопэратыўную веду, а ў адносінах да дзяўчат, на хатняе гаспадараваньне, узгадаваньне дзяцей і гігіену.

У галіне народнай асьветы БНСП. будзе дамагацца:

1. Роўнага для ўсіх грамадзян права на асьвету, а гэтым самым роўнага права беларусаў на вышэйшую і сярэднюю школу.

Роўнасьць праваў БНСП разумее, як запраўдную і фактычную роўнасьць, а не роўнасьць на паперы, — дзеля чаго БНСП будзе вясьці барацьбу проці апанаваньня вышэйшых і сярэдніх школаў больш заможнымі народамі і клясамі і будзе дамагацца прыйма ў гэтыя школы жыдоў, палякоў, беларусаў і інш. у такой колькасьці, якая адпавядала-б агульнай колькасьці жыхароў паасобных нацыянальнасьцяў.

2. Бясплатнай навукі для незаможнай беларускай моладзі ў сярэдніх і вышэйшых школах.
3. Бясплатнага навучаньня ў пачатковых школах для ўсіх і ў роднай мове вучняў.
4. Адчыненьня сярэдніх агульна-асьветных і праф. тэхнічных школаў з выкладовую беларускаю моваю і запамогаў ад скарбу на гэтую мэту.
5. Шырокай пастаноўкі зашкольнай асьветы ў беларускай мове і за кошт дзяржавы.
6. Перадачы кіраўніцтва над беларускімі школамі і пазашкольнаю асьветаю ў рукі арганізаванага беларускага грамадзянства.

## X. Рэлігія.

БНСП да кожнай рэлігіі адносіцца ў залежнасьці ад карыснасьці яе або шкоднасьці для Беларускай Нацыі.

Сьцьвярджаючы той факт, што каталіцкае і праваслаўнае духавенства вядзе на нашых землях проці-беларускую палітыку — БНСП. будзе змагацца з польска-каталіцкім і маскоўска-праваслаўным клерам датуль, пакуль ён не перастане быць шкадлівым беларускай нацыянальнай справе.

## XI. Самаўрады.

БНСП прызнаючы паважную ролю, якую адыгрываюць у грамадзкім жыцьці самаўрады — будзе змагацца за тое, каб ува ўсіх самаўрадавых установах Беларускі Народ меў адпаведнае сваёй колькасьці прадстаўніцтва і каб выбары ў самаўрады адбываліся свабодна і без прымусу з боку ўладаў на падставе ўсеагульнага, роўнага і простага выбарнага права.

У самаўрадавых установах беларускія нацыянал-сацыялісты будуць змагацца за нацыянальна-культурныя правы Беларускага Народу і за палепшаньне ягонага гаспадарчага палажэньня.

## XII. Суд.

БНСП. дамагаецца:

1. Поўнай рэарганізацыі судоў на новых падставах, адпавядаючых патрэбам шырокіх масаў Беларускага Народу.
2. Рэарганізацыі карацельнай сыстэмы і перштварэньня турмаў у папраўча-выхаваўчыя дамы, дзе-б людзі маглі дабываць

сабе агульную і прафэсыянальна-тэхнічную веду, а адначасна пазбыцца антыграмадзкіх нахілаў.

### XIII. Шлях да зьдзейсьненьня праграмы.

БНСП. імкнецца да абьяднаньня каля сябе ўсіх нацыянальна-дзеючых беларускіх сілаў і ўсіх клясаў Беларускага Народу — сялян, работнікаў, інтэлігенцыі і рамесьнікаў, якім будучы нацыянальна-эканамічны і палітычны лад прынясе збаўленьне ад той галіты і няпэўнасьці ў заўтрашнім дні, ў якіх яны апынуліся пры сучасных умовах жыцьця. Агульнае імкненьне гэтых клясаў да палепшаньня свайго лёсу, каторае можа наступіць толькі пры рашучай рэканструкцыі сучаснага ладу і пры ўмовах палітычнай незалежнасьці Беларускага Народу, — стварае падставы да супольнага фронту гэтых часткаў адзінай працоўнай Беларускай Сямьі ў барацьбе за лепшую будучыню.

У гэтым адзіным фронце няма мейсца для гегемоніі паасобных групаў Беларускага Народу, няма тым самым мейсца і для кіруючага верхаводзтва гарадзкога пралетарыяту над сялянствам і іншымі працоўнымі клясамі.

Сацыяльна-творчыя здольнасьці ў кірунку перабудовы сучаснага ладу на сацыялістычных падставах маюць усе працоўныя і эксплёатаваныя клясы наагул — словам усе тыя, каму нявыгадны гэтакі лад і хто існуючыя несправядлівасьці і крыўды здольны сабе ўсьведаміць.

БНСП. выразна ўяўляе сабе, што толькі шляхам бязупыннага змаганьня прыгнечаны народ можа забраць ад жыцьця ўсё належнае яму правам прыроды.

Каб Народ Беларускі запраўды быў здольны да барацьбы і дапяў сваіх мэтаў, адбудаваўшы незалежную дзяржаву і вытварыўшы ў ёй тачі лад, які ёсьць гістарычна неабходным, — ён мусіць быць моцным нацыянальна арганізаваным і прасякнутым кіруючаю нацыянальнаю і сацыяльнаю ідэяю.

На чале народу павінна стаяць ягонае, маючае послух нацыянальнае кіраўніцтва, цьвёрдыя і стойкія нацыянальна-дзеючыя кадры, абьяднаныя ў агульна-нацыянальным цэнтры.

Бяручы ўсё гэта пад увагу і лічучыся з сучасным палажэньнем на нашых землях, — БНСП на першы плян сваёй дзейнасьці ставіць нацыянальнае ўзгадаваньне Беларускага Народу і барацьбу з дэструкцыйнымі сіламі, якія дэмаралізуюць наш народ і скіроўваюць яго на неадпаведныя шляхі.

БНСП. дзеля асягненьня сваей нацыянальнай праграмы будзе тварыць фронт нацыянальнай еднасьці з іншымі беларускімі нацыянальна-незалежніцкімі партыямі.

У мэтах агульнага ўздыму беларускай культуры БНСП будзе падтрымліваць усімі даступнымі ёй спосабамі культурныя і гаспадарчыя пачынаньні, маючыя беларускі нацыянальны характар.

---

*Супроць капіталізму —*
*свой сацыялізм.*
*Супроць чужога нацыяналізму —*
*свой нацыяналізм.*

---

## Ці патрэбна нам партыйнае будаўніцтва?

У наш век „пераацэнкі ўсіх вартасьцяў“ часта прыходзіцца спатыкацца з думкаю пра непатрэбу ў грамадзкім жыцьці палітычных партыяў. Прыхільнікі яе даводзяць, што партыі дэмаралізуюць народ і нічога карыснага ў грамадзкае жыцьцё ня ўносяць.

За апошнія гады даволі моднаю сталася нават „барацьба з партыйнасьцю“, якая вядзецца пераважна ў тых дзяржавах, дзе запанавала дыктатура клік у яўнай ці ўкрытай форме.

Фактычна, справы ў гэтакіх дзяржавах абстаяць так, што пэўная, добра сарганізаваная хэўра, захапіўшы ўладу, у мэтах утрыманьня яе на даўжэйшы час, — прагалошвае вайну ўсім палітычным партыям, залічаючы сябе да ліку непаграшымых.

Зусім асобнае мейсца займаюць дыктатарскія ўрады, прызнаныя ўсім народам, дзе гэты апошні, будучы захопленым пэўнаю прыгожаю ідэяю, каторая праводзіцца ў жыцьці кіруючаю партыяю, дае згоду на ўсё, што яна робіць у імя дабра нацыі.

У гэтым выпадку народ сьведама падтрымлівае свой дыктатарскі ўрад, каторы ёсьць нічым іншым, як выканаўцам народнай волі.

Падобныя народы, каторыя можна залічыць да ліку шчасьлівых, запраўды, партыяў не патрабуюць.

Але нас цікавіць ня гэта.

Мы хочам даць адказ на пастаўленае пытаньне — ці патрэбны палітычныя партыі наагул, а беларускаму народу ў прыватнасьці.

Справа ў тым, што нават паважны ўкраінскі часапіс „Перемога“ вядзе барацьбу з партыямі, прапагуючы ўтварэньне г. зв. фронту „нацыянальнай еднасьці“.

Разглядаючы парушаную справу трэба, перадусім, браць пад увагу палажэньне народаў двух катэгорыяў — маючых сваю дзяржаўнасьць і з тае ці іншае прычыны яе пазбаўленых.

Што датычыць народаў дзяржаўных, то палітычныя партыі тум могуць быць не патрэбны ў тым толькі выпадку, калі народ настолькі моцна скансалідаваўся нацыянальна, што вытварыў такі сацыяльна-палітычны ідэал, каторы захапіў калі ня ўсіх, то прынамсь значную большасць народу.

У іншых варунках, дзе гэтакай салідарнасьці няма, дзе пануе дуктатура розных клікаў (камуністычных, масонскіх ці якіх іншых — розьніцы ня робіць), ператкарыўшых сваё панаваньне ў вялікі цяжар для ўсяго народу, — партыі неабходны. Тут патрэбна барацьба з падобнымі дыктатарскімі клікамі і яе можа весьці толькі такі народ, каторы вытварыць для гэтакай барацьбы свой авангард у постаці палітычных партыяў. Асаблівую вагу мае нацыянальна-партыйнае будаўніцтва сярод народаў прыгнечаных і пазбаўленых сваей палітычнай незалежнасьці.

У гэтым выпадку нацыянальная палітычная партыя адыгрывае ролю палітычнай школы для грамадзянства, дзе яно загартоўвае свой дух і набывае энэргію, патрэбную да змаганьня за лепшую долю ўсяго народу. У той час, як палітычныя партыі дзяржаўных народаў імкнуцца да зрэалізаваньня сваей праграмы ўжо ў існуючай дзяржаве, — заданьні палітычных партыяў, дзеючых сярод прыгнечаных народаў, куды складнейшыя.

Апрача нацыянальнага ўзгадаваньня народу і штадзеннай барацьбы яны павінны імкнуцца да ўтварэньня такіх абставінаў пры каторых магла-б паўстаць незалежная дзяржава.

Вось дзеля гэтых прычын нельга нам пагадзіцца як з разважаньнямі тых, каторыя даводзяць пра непатрэбу палітычных групіровак наагул, так і тых, хто хацеў-бы ўтварыць фронт „нацыянальнай еднасьці“, памінуўшы партыйнае будаўніцтва.

Калі разыходзіцца пра ўтварэньне такога цэнтру, які абеднываў-бы ўсе нацыянальна-дзеючыя палітычныя і грамадзкія сілы, то мы, беларусы, гэтакі цэнтр ужо маем у постаці Беларускага Нацыянальнага Камітэту, каторы запраўды творыць фронт беларускай нацыянальнай еднасьці.

Справа палягае на тым, каб наш Нацыянальны Камітэт узмоцніўся і загарнуў пад свае ўплывы ўвесь Беларускі Народ.

Гэта-ж узалежнена, у сваю чаргу, ад інтэнсыўнасьці працы тых палітычных і грамадзкіх установаў і арганізацыяў, каторыя ўваходзяць у гэты Камітэт.

Паважную ролю адыгрываюць тут палітычныя партыі, каторыя сваею праграмаю і тактыкаю здольны пацягнуць за сабою шырэйшыя колы беларускага грамадзянства.

Наступіць такі час, калі і наш народ абьяднаецца на грунце некай аднэй сацыяльна-палітычнай ідэолёгіі і калі тыя разыходжаньні і якія існуюць паміж паасобнымі нац. беларускімі партыямі самым жыцьцём будуць згладжаны.

Павінен наступіць і такі стан рэчаў, калі нават тыя, каторыя адвярнуліся ад беларускай нацыянальнай справы і пашлі за камуністычным інтэрнацыяналізмам, пераканаюцца ў сваіх памылках... — Цяпер-жа, калі выразна пачынаюць зарысоўвацца знакі будучых падзеяў, беларускія нацыянал сацыялісты павінны тварыць моцныя партыйныя кадры, актыўныя і прасякнутыя духам патрыятызму, пры дапамозе якіх разабьюць усе перашкоды, вытвараныя на шляху да нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня Беларускага Народу.

**Ф. Акінчыц.**

---



---

# Сьвята мямецкіх нацыянал-сацыялістаў.

**(Ад нашага Бэрлінскага карэспандэнта).**

Дня 11.9. у Нюрэнбэрзі адбыўся ня чутны дагэтуль у дзеях Нямеччыны па сваім размаху, арганізацыі і вялічыне „Партыйны дзень Ням. Нац.-Сацыялістычнае Рабочае Партыі“ (Parteitag).

Кожны год Нямецкая Нац.-Сац. партыя наладжвае падобныя зьезды з тым, каб падсумаваць і паказаць зробленае, а разам і агаласіць вытычныя далейшае працы. — У гэтым годзе дзень гэты быў тым больш урачысты для нямецкага народу, бо апрача палітычных і спартовых арганізацыяў, першы раз ад Вэрсалю Нямеччына задэманстравала сваю маладую вайсковую сілу і паказала адзін з тых чыннікаў, каторы мо найболш як усе іншыя творыць будучыню народу—„Службу працы“ (Arbeitsdienst).

„Arbeitsdienst“ — дабравольны абавязак кожнага 20 цігодняга немца і немкі. У працягу году моладзь гэта ідзе на вёску, і там, у сьцíслым кантакце з сялянствам, дапамагае яму ўва ўсіх выпадках: праводзіць асушку балотаў, папраўку мастоў, дарогаў і нават сялянам, якім не хапае рабочых рук, памагае касіць, капаць бульбу і г. п.

Я асабіста пазнаёміўся з „Arbeitsdienstam“ на вёсцы, і цяпер, пабачыўшы ўсю яе веліч на партыйным зьезьдзе, хачу маімі ўражаньнямі падзяліцца з беларускім чытачом.

Вагромністы, больш як 5 квадр. кілёмэтраў „цэпэлінны луг“. Далёка, на гарызонце нешта бялеецца. Гэта палаткі, у якіх разьмясьціліся прыбыўшыя на зьезд два мільёны

сяброў партыі. Тут-жа, кругом, як вокам кінуць безканечная людзкая таўпа.

Са мною на трыбуне трох англійцаў-журналістаў. Недалёка ад нас разьмясьціліся рудакопы з Саары з іх маляўнічымі скуранымі хвартухамі. Мне хацелася перайсьці на суседнюю трыбуну, дзе пабачыў я знаёмага немца, аднак не ўдалося—бо сталася нешта, што цяпер мне проста такі не ўмагату перадаць. На пляц уваходзілі аддзелы „Службы Працы". Гітлер стаяў у аўтамабілі, тварам да нашае трыбуны, і перад ім пацягнулася, бліскаючы на сонцы пераліўамі срэбра з вычышчаных да блеску рыдлёвак, авеяная крывава-чырвонымі з каласістаю эмблемаю сьцягамі, 54-тысячная калённа „Службы Працы". Бясконцым патокам, аддзел за аддзелам, упіваючыся вачыма ў постаць павадыра, пружынячы ногу, праходзілі і сабіраліся за некалькі сот мэтраў ад месца параду. Апошнія калённы... Гітлер саскочвае з аўтамабілю і з сьлязьмі радасьці паціскае рукі паадзіночным „жаўнерам працы".

Мае суседзі, флегматычныя англійцы, дасюль спакойна прыглядаючыяся, часам кляскаючы ў далоні, калі які-небудзь аддзел байчэй ногу адбіваў — раптам падняліся і зьнялі шапкі; чулася, што нешта творыцца, нешта моцнае, магучае, выходзячае і прыдуманае не вучонымі ў зацішных габінэтах, але выходзячае з грудзей народу, што нас, чужынцаў, заставіла з пашанаю ўстаць і зьняць капялюхі.

Наперад 45-тысячнага блёку выйшла калённа юнакоў. Пяўцы... Яны пачалі роўным, цьвёрдым як сталь, маладым, звонкім голасам:

Вітайце сьцягі;
Вітайце адзнакі;
Вітайце павадыра, што іх стварыў...

Сьпявалі як канон, абапёршы абодва кулакі на рыдлёўках. Падчас сьпеву сьцягі пахіліліся. Пасьля ўрачыстым, спакойным крокам ізноў перад Гітлерам памаршаравалі.

Пачалося „палявое набажэнства". Пачуліся напевы не таго набажэнства, якое пад час бою людзей на сьмерць шле; не напевы набажэнства з іх духоўнікамі; не малітва да далёкага і няведамага Бога; ня ўніжэньне паасобных людзей з іх асабістымі няшчасьцямі, але малітва маладога, поўнага жыцьця пакаленьня перад мільённаю таўпою, перад тым, што носіць назоў Бацькаўшчына. — Бо тут была бацькаўшчына ўва ўсім яе ўвасабленьні; тут быў той, каторы ўскрасіў упаўшы дух народу-нацыі і парваў путы, наложаныя пераможцамі ў вялікай вайне. Песьня кончылася. З тысячнае масы пачуўся звонкі голас паморца: — „мы з Паморра"; другі — „мы з Баварыі"; трэці барытонам — „мы з Саксоніі"... Кожны голас азначаў адну з нямецкіх краінаў. Ён ляцеў над галовамі мільённае таўпы і казаў, што ўсе яны тут, з найдалейшых куткоў Нямеччыны, з аднэю думкаю сабраліся: Служба Бацькаўшчыне.

Жаўнераў раней на рэлігіі дзялілі і на службу Божу прымушалі ісьці. — Тут на гэтым полі ня было падзелу і ня было прымусу. Маладыя галасы звалі народ да адбудовы. Гэта кожны вухам душы адчуваў, і чуў, што голас гэты быў адгалоскам часткі бацькаўшчыны, з яе спэцыфічным, з тым, што разам зложанае творыць народ.

Пашто і да каго была гэта малітва-песьня? Маліла яна не аб дараваньні, але звала да працы; быў гэта не завучаны канон, але голас маладое душы, аддаючай сябе на ахвяру Бацькаўшчыне; гэта была малітва чыну і ахвярнасьці. Перад таўпою — прыгожы, стылёвы блёк з эмблемаю працы і вянкамі для тых, хто з радоў дзейных барацьбітоў адыйшоў у вечнасьць.

І вось пры ўсім гэтым я ўбачыў, што да блеску вычышчаныя рыдлёўкі ясьней за сьвечкі сьвецяць; што ўся гэта людзкая маса адну парахфію творыць, каторая свае рукі трымае не на малітвенніках, але на сымбалю працы — рыдлёўцы. І калі прагучэлі апошнія словы песьні: „Наш кожны ўзмах рыдлёўкай гэтай—малітва ёсьць для Бацькаўшчыны" — я ўспоўніў маю далёкую Беларусь. — Мае прыяцелі англійцы выцiралі сьлёзы.

Цягнік Нюрэнбэрг—Бэрлін. **Т.**

---

*Лепш умерці з голаду, пакідаючы добрае імя, чымся за кавалак хлеба адрачыся ад сваіх ідэалаў.*

---

## Пачатак канца.

Нямя ніякага сумліву, што вайна ў Афрыцы ёсьць толькі пачаткам вялікага катаклізму, які пройдзе праз увесь сьвет. Ня было для нас гэта неспадзеўкаю...

Буржуазна-капіталістычны лад зайшоў у такі лабірынт розных нацыянальных, палітычных і сацыяльных процімоўнасьцяў, з якога іншага выхаду, апрача вайны, знайсьці немагчыма.

Не ўратавала палажэньня і Ліга Народаў, бо яна ня мела той маральнай і грамадзкай сілы, якую пры іншых абставінах мець павінна.

Ліга, кіраваная акуламі капіталістычнага сьвету, рупілася толькі пра тое, каб утрымаць несправядлівы стан рэчаў, вытвараны пасьля апошняй вайны, — і таму яна мусіла збанкрутаваць.

Удзел у гэтакай сусьветнай арганізацыі толькі узмацняў гвалты і несправядлівасьці што прычынілася да выхаду з яе Нямеччыны і Японіі. Як відаць з усяго застануцца там толькі тыя з дзяржаў, каторыя да апошняга будуць бараніць сваё ўпрывілёванае палажэньне, прыкрываючыся шырмай Лігі.

Ліга Народаў не выканала сваіх элемэнтарных абавязкаў не вырашыўшы аснаўных пытаньняў, якія перад ёю стаялі — гэта палагоджаньне канфліктаў, існуючых паміж народамі на грунце перанасяленьня і беспрацоўя.

Фактам ёсьць тое, што многія народы патрабуюць вольных абшараў, куды-б яны маглі высылаць лішак сваяго насельніцтва. Да ліку гэтых народаў належыць і Італія.

Дзякуючы таму, што Ліга Народаў сьцярагла выключна інтарэсы тых дзяржаў, якія захапілі ўсе годныя для засяленьня землі і ня было ніякай надзеі, каб гэтакі стан рэчаў зьмяніўся на болш справядлівы, для пакрыўджаных народаў застаўся апошні аргумэнт — вайна.

Італію і Абісінію, якія жыцьцёвымі абставінамі змушаны да барацьбы, мы залічаем да ахвяраў сучаснага палажэньня, вытваранага сусьветным капіталам.

Вайна распачалася і няма ведама калі закончыцца.

Адно для нас пэўна: — на мейсцы старой Эўропы з яе крыўднымі парадкамі — паўстане новая, болш справядлівая, з новымі дзяржаўнымі межамі і з іншым распадзелам прыродных багацьцяў.

Маральна-адказнымі за крывавыя войны, у каторыя ўступае сьвет, ёсьць тая кліка дзяржаваў, каторая захапіўшы ў свае рукі ўсё, адмаўляла ў праве на існаваньне іншым народам.

Верым, што катаклізм, які на нас насоўваецца, ёсьць пачаткам канца гвалтам і ўсім несправядлівасьцям, пануючым на сьвеце.

Полацкі.

---

*Найганорнейшая кара — гэта кара за адраджэнскую працу для свайго народу.*

---

## Харектэрны суд.

13. I. 1936 г. па пяцідзённай расправе быў агалошаны прысуд ў справе г. зв. „Акадэміцкай левіцы“ У. С. Б. у Вільні. Гэты суд, а яшчэ болш прысуд, ёсьць вельмі характэрны і для нас, беларусаў, павучальны. Галоўнымі героямі гэтай справы былі 6 падсудных прадстаўнікаў студэнцкай інтэлігэнцыі — дзяцей багатай Віленскай польскай буржуазіі, абвінавачаных за.. камунізм. Разам з гэтымі інтэлігэнцка-камунізуючымі палякамі знайшлося пару беларусаў. (Што могуць мець палітычна супольнага сялянскія бедныя сыны беларусы з сынамі польскіх багачоў-адвакатаў і дактароў)?

Усіх падсудных пракуратар абвінавачваў у камунізме і ў антыдзяржаўнай працы, падчырківаючы павадырства Ендрыхоўскага і сёстраў Дзевіцкіх (усе палякі).

Прысуд: А. Смаль (беларус) і В. Лівшыц (жыд) па 3 гады, а па застасаваньні амнэстыі на 1 год 6 месяцаў вязьніцы і пазбаўленьне грамадзкіх і ганаровых праў на працяг 5 гадоў, Друто (літовец) на 5 г. і пазбаўленьне правоў. Рэшта апраўдана з прычыны браку доказаў віны. — Гэтая нястача доказаў віны абвінавачаных палякаў сьведчыць аб тым, што яны праводзілі акцыю хітра, выкарыстваючы наіўных шчырых беларусаў да чорных камуністычных работ, як шапіраграф, рукапісы і г. п.

Гэткі прысуд быў неспадзеўкай як падсудным палякам так і слухаючай расправу публіцы. На тварах апраўданых палякоў відаць была нейкая стыдліва-заскочаная вінаватая міна. Публіка на салі таксама пачала нешта шопатам комэнтаваць.

Пэўнаж суд мусіў браць пад увагу толькі „доводы“ віны і засудзіў паводле права і свайго сумленьня і нельга яго падазраваць у нейкіх узглядах для падсудных палякоў, аднак пасьля прысуду адчуваўся на салі нейкі нясмак.

Судовая саля была перапоўнена. Пераважна сваякі і знаёмыя абвінавачаных. Самая Віленская польская інтэлігэнцыя. Чуваць у гутарках: „пані сэндзіна, пані докторова“ і г. п. Відаць выразная сымпатыя для абвінавачаных. Каб гэта сядзелі на лаве абвінавачаных толькі беларусы, вочы гэтае публікі зіялі-б ненавісьцяй, жаданьнем вялікай кары „выврherbowцом“. Але ў гэтым выпадку — абвінавачаны — „шляхэтні млодзеньцы“, „ідэёвцы“. Нейкі малады хлапец падыходзіць да знаёмых і дыскрэтна зьбірае ахвяры на прэзэнт для пані Сукенніцкай за добрую абарону. — Скуль гэта ў польскай Віленскай буржуазіі знайшлося столькі сэнтымэнту для сваей камунізуючай моладзі? Чаму-ж яны гэтага сэнтымэнту ня выявілі падчас працэсу камунізуючай беларускай „Грамады“, „Змаганцаў“ і іншых? Бо тады нацыянальны шовінізм казаў цьвярдзіць, што беларусы — „выврhoтовцы“. Іх-жа выпешчаныя сынкі ў гэтай самай справе — „шляхэтні млодзеньцы, ідэёвцы“.

Гэткая нацыянальная салідарнасьць польскай Віленскай буржуазіі ў абароне сваей камунізуючай моладзі вельмі характэрна і нам беларусам ёсьць павучальнаю. — Перадусім беларуская радыкальная моладзь не павінна шукаць сяброўства ў Капалаў, Ендрыхоўскіх, палянізуючых наш Край ня менш Мацкевічаў і Обстаў, але павінна трымацца сваіх субратоў.

Ендрыхоўскія, Капалы будуць заўсёды прапагатарамі польшчыны, хаця-б і ў чырвоным колеры, таксама як гэта робяць чырвоныя маскоўцы, — прапагуючы расейшчыну.

Урэшце польская буржуазная моладзь можа сабе пабавіцца ў камунізм. — Яна мае сваю незалежную дзяржаву. Беларуская-жа моладзь павінна салідарна выступаць у змаганьні за незалежнасьць Беларускай Нацыі. Бо толькі ў вольнай сваей дзяржаве мы можам стварыць такі лад, які будзе карысны працоўным беларусам.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Галоўны рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.

